**БЕЛАРУСКІЯ ТУРМЫ**



ЦІ СТАНУЦЬ ЯНЫ КАМФОРТНЫМІ

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**ЯКІ АДПАЧЫНАК**

МОЖАМ САБЕ ДАЗВОЛІЦЬ



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

21.06.12-27.06.12 г.

# КЕПСКАЕ ШОУ КОШТАМ У 100 МІЛЬЯРДАЎ

Як вядома, выбары ў палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу прызначаны на 23 верасня.




*Без слоў*

## ЯСНА НАВАТ ДЛЯ ГАЙДУКЕВІЧА

Калі меркаваць па першай рэакцыі, топаведамленне пра гэта не выклікала ў грамадстве ніякага інтарэсу. Чаму так? Парламенцкія ж выбары — адна з галоўных палітычных падзей амаль у кожнай краіне свету.

Адказ на гэтае пытанне відавочны нават для старшыні ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Сяргея Гайдукевіча. Ён у гутарцы з агенцтвам "Інтэрфакс-Захад" патлумачыў: "Мы ведаем, што ўладай ужо адабраны свае кандыдаты. Калі сітуацыя будзе разгортвацца так, як гэта адбываецца сёння, то складана казаць пра наш удзел у выбарах. Калі так будзе, то мы нагогул прапануем не праводзіць выбары, а адразу прызначыць дэпутатаў".

Гайдукевіч папярэджвае пра небяспеку: "Насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусь прыходзіць да разумення, што не трэба нічога байкатаваць альбо ўдзельнічаць у галасаванні, ведаючы, што выбары прадвызначаны загадзя".

Цікава, што гэта кажа не апазіцыянер, а даўні спарынгпартнёр улады.

> "Абсалютную большасць мандатаў атрымаюць асобы, лаяльныя да Аляксандра Лукашэнкі, — сябры прапрэзідэнцкіх партый, БРСМ, афіцыйных прафсаюзаў, "афганцы" і г.д. Згодна з вядомай разнарадкай, сярод дэпутатаў будзе 30% жанчын".

## РАШЭННЕ ЎЖО ПАДРЫХТАВАНА І НАДРУКАВАНА

Не маюць празмерных ілюзій і адкрытыя прыхільнікі кіраўніцтва краіны. Намеснік старшыні аб'яднання "Белая Русь" Аляксандр Шацько каментуе імавернае стаўленне Захаду да гэтай кампаніі: "Мяркую, што рашэнне пра непрызнанне нашых выбараў падрыхтавана і надрукавана… Тое, што нас не прызнаюць у еўрапейскай супольнасці, канечне, сумна, але, па вялікім рахунку, гэта для нашай краіны не будзе вялікай праблемай".

Сапраўды, ніводны склад палаты прадстаўнікоў, пачынаючы з самага першага (1996 год), не лічыўся на Захадзе легітымным. Але чальцоў гэтай установы заўсёды значна больш хвалявала меркаванне Аляксандра Лукашэнкі, чым іншаземных парламентарыяў.

Сваю бессэнсоўнасць Нацыянальны сход чарговы раз засведчыў летась, калі практычна ніяк не адрэагаваў на эканамічны крызіс, што суправаджаўся шалёным ростам коштаў і рэкорднай дэвальвацыяй беларускага рубля. Дэпутаты паводзілі сябе нібыта страусы, хаваючыся ад праблем. І не дзіўна: як яны могуць крытыкаваць таго, хто выдаваў ім мандаты?

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# ЧАМУ БЕЛАРУСЫ БЯГУЦЬ ЗА МЯЖУ

**У 2011 годзе рэзка ўзрасла колькасць беларусаў, якія папрасілі прытулак у еўрапейскіх краінах, сцвярджае Еўрарадыё.**

Нядаўна Вярхоўны камісар па справах уцекачоў прадставіў штогадовы статыстычны даклад, з якога вынікае, што ў 2011 годзе 1441 беларус папрасіў прытулку ў краінах Еўропы. Інфармацыю ААН прадставілі 38 еўрапейскіх краін, але падрабязных дадзеных па кожнай з іх няма.

І па статыстыцы службаў ААН, і па дадзеных Еўрастата бачны рэзкі рост колькасці беларусаў, якія звярнуліся па прытулак. Так, паводле Еўрастата, у 2009 г. За атртыманнем прытулку звярнуліся 945 беларусаў, у 2010 – 910, а ў 2011 – 1410! Такім чынам, іх колькасць павялічылася ажно на 55%, што выглядае даволі трывожна.

Але праваабаронца **Алег Гулак** мяркуе, што такое рэзкае павялічэнне колькасці ўцекачоў з Беларусі адбылося ў першую чаргу з-за рэзкага эканамічнага пагаршэння, а не з-за росту інтэнсіўнасці палітычных рэпрэсій.

Алег Гулак: *"Перш за ўсё гуляе фактар эканамічны. Іншая справа, што сітуацыя з рэпрэсіямі выклікае ў людзей разуменне, што сітуацыя ў краіне закансервавана і будучыні тут няма".*

# ЯК СТАВЯЦЦА ПАЛІТЫКІ ДА ІДЭІ ПРАЙСЦІ ДЭТЭКТАР ХЛУСНІ?

## Адказ на гэтае пытанне шукала радыё "Свабода"

Сяргей Марцалеў, былы кіраўнік выбарчага штаба кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года Мікалая Статкевіча, прапаноўвае фігурантам крымінальнай справы па падзеях 19 снежня, а таксама лідарам апазіцыі і ключавым фігурам у парламенцкай кампаніі прайсці праверку на дэтэктары хлусні.

**ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ**

**Адзін з лідараў БХД Віталь Рымашэўскі назваў ініцыятыву Марцалева добрай. Ён яе падтрымлівае, аднак сумняваецца, што яна будзе падтрымана ўсімі:**

— Я гатоў адным з першых удзельнічаць і заклікаў бы падтрымаць усіх іншых. Гэта хоць неяк разрадзіла б атмасферу ўсеагульнага падазрэння, якая зараз пануе ў асяродку апазіцыі. Няхай усе пройдуць гэты дэтэктар хлусні, і для многіх стане больш зразумелай пазіцыя тых людзей, якія сёння ўзначальваюць беларускую апазіцыю. Я сумняваюся, што ўсе пойдуць, але ініцыятыва добрая. Няхай вось цяпер Марцалеў шукае прыстасаванне, спецыялістаў. Я з задавальненнем прыйду.

**СЯРГЕЙ ВАЗНЯК**

**Прэсавы сакратар грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" Сяргей Вазняк распавёў, што праходзіў праверку на дэтэктары хлусні, калі быў у турме КДБ:**

— Гэта зусім пустая працэдура. І чалавек з моцнай воляй можа падмануць дэтэктар. Тым больш што нават самі праваахоўныя, судовыя органы не разглядаюць паказанні дэтэктара хлусні як доказ вінаватасці ці невінаватасці чалавека. Дэтэктар дакладна не вызначае, падманвае чалавек ці гаворыць праўду. Ніякага сэнсу ў гэтым няма. Чалавек з дрэнным артэрыяльным ціскам можа разнервавацца, і дэтэктар пакажа, што ён хлус. І наадварот, пра чалавека з вельмі моцнай воляй, які можа кіраваць эмоцыямі, дэтэктар нічога не пакажа. І што, яго адразу будуць лічыць крыштальна сумленным? А хто расхваляваўся — той агент і ўваходзіць у тыя 80%, пра якія казаў Бандарэнка? Таму гэта лухта, проста бессэнсоўная задумка, якая нічога не дае.

**ДА ВЕДАМА**

### АДКУЛЬ НОГІ РАСТУЦЬ

Паводле слоў Марцалева, лідары апазіцыі, фігуранты крымінальных спраў па падзеях 19 снежня 2010 года "у той ці іншай ступені маюць намер удзельнічаць у парламенцкай выбарчай кампаніі". "Аднак фігурантаў гэтай справы часта падазравалі ў тым, што яны пад націскам пагадзіліся супрацоўнічаць са спецслужбамі. Алею ў агонь падлілі і факты напісання некаторымі палітыкамі пакаянных лістоў прэзідэнту, і выпадак з экс-кандыдатам у прэзідэнты Алесем Міхалевічам, які публічна прызнаўся ў тым, што яго выпусцілі ў абмен на абяцанне супрацоўнічаць з КДБ. Зыходзячы з гэтага, палітыкі загаварылі пра "фракцыю генерала Зайцава" (старшыні КДБ) у апазіцыі", — сказаў Марцалеў.

Гэта прывяло да таго, што лідары апазіцыі не давяраюць адзін аднаму, а самі спецслужбы ўсяляк культывуюць чуткі пра вярбоўку, тым самым узмацняючы гэты недавер.

*"Таму я прапаноўваю фігурантам крымінальнай справы па падзеях 19 снежня, а таксама лідарам апазіцыі і ключавым фігурам у парламенцкай кампаніі прайсці праверку на дэтэктары хлусні"*, — гаворыць Марцалеў.




*Жарты жартамі, а да ідэі з дэтэктарам паставіліся сур'ёзна*

**РЫГОР КАСТУСЁЎ**

**Былы кандыдат у прэзідэнты ад БНФ Рыгор Кастусёў гатоў прайсці праверку на дэтэктары хлусні.**

— Я падтрымаў бы такую ініцыятыву, але Марцалева трэба першым адправіць на дэтэктар і паглядзець, як ён яго пройдзе. Гэта нейкі дзіцячы сад, але пачнём з Марцалева, я за ім. Гэта несур'ёзныя адносіны. Але калі Марцалеў будзе так настойваць, то я за ім следам пайду. Калі ён першы возьмецца праходзіць, я буду другім нумарам.

**АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ**

**Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч лічыць, што гэта добры намер, каб зняць даволі вялікі недавер, які існуе паміж рознымі апазіцыйнымі дзеячамі:**

— Але гэтая працэдура, нават калі б яна і была ажыццёўлена, пытанняў і сумневаў не зніме, а толькі паспрыяе ўзнікненню яшчэ большых спекуляцый на гэтай тэме і інсінуацый на прадмет таго, хто залежыць ад спецслужбаў, хто супрацоўнічае, хто не супрацоўнічае і гэтак далей. Наўрад ці гэтая ідэя можа паўплываць на тое, каб знялося пытанне даверу. Але калі кінуць выклік прайсці гэтую працэдуру, то я не бачу праблем: мы маглі б адказаць на яго. Аднак не думаю, што гэта дабавіць даверу ў шэрагі дэмакратычных актывістаў.

### ДЭТАЛІ

**Як Марцалеў плануе правесці свой эксперымэнт? Дзе ён возьме прыстасаванне і адмыслоўцаў?**

Марцалеў: «*Незалежны тэлеканал быў бы ў такім ток-шоу зацікаўлены, бо кожны ўдзельнік — гэта як мінімум 40 хвілін. Незалежны тэлеканал ці радыёстанцыя маглі б дапамагчы з абсталяваннем. Яго дастаць няцяжка. Такі апарат, напрыклад, ёсць у кожным банку. Патрэбен незалежны спецыяліст, які гэта праводзіў бы. Гэта можа быць неграмадзянін Беларусі. У большасці краін ёсць прыватныя спецыялісты, якія рэалізоўваюць такія ініцыятывы для асоб, якія хочуць ачысціцца ад падазрэнняў перад органамі следства, напрыклад. Знайсці такога адмыслоўца ўсё ж такі можна*».

**АЛЕСЬ ДАШЧЫНСКІ**

# КЕПСКАЕ ШОУ КОШТАМ У 100 МІЛЬЯРДАЎ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Са словаў Лукашэнкі вынікае, што і сёлета будуць выкарыстаны напрацаваныя ў мінулым практыкі, прычым пачынаючы ўжо з першага этапу — фарміравання выбарчых камісій. У іх склад, паводле кіраўніка Беларусі, павінны патрапіць прадстаўнікі партый, якія "годна зарэкамендавалі сябе падчас папярэдніх выбарчых кампаній". А вось "тыя, хто раней садзейнічаў дэзарганізацыі выбараў, не павінны атрымаць другога такога шанцу".

## І НЕКАЛЬКІ ПАДКАНТРОЛЬНЫХ УЛАДЗЕ "ДЭМАКРАТАЎ"

Зыходзячы з гэтага, вельмі лёгка спрагназаваць, што прадстаўнікі апазіцыі, якія хоць трохі здольны перашкаджаць фальсіфікацыі выбараў, у выбаркамы не трапяць. Там будуць сядзець настаўнікі, "прадстаўнікі працоўных калектываў" ды іншыя асобы, якія гатовы моўчкі пагаджацца з любымі хітрыкамі ўлады.

Што тычыцца непасрэдна афіцыйных вынікаў галасавання, то іх без рызыкі памыліцца можна агучваць ужо сёння. Абсалютную большасць мандатаў атрымаюць асобы, лаяльныя да Аляксандра Лукашэнкі,— сябры праpрэзідэнцкіх партый, БРСМ, афіцыйных прафсаюзаў, "афганцы" і г.д.Згодна з вядомай разнарадкай, сярод дэпутатаў будзе 30% жанчын. Тэарэтычна не выключана, што ў палату дзеля стварэння ілюзіі сумленных выбараў патрапяць і некалькі падкантрольных уладзе "дэмакратаў". Аднак гэта ўжо ні на што не паўплывае.

Між іншым старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына паведаміла, што выбарчая кампанія будзе каштаваць больш за 92 мільярды рублёў. Дык ці варта марнаваць гэтыя грошы на кепскае шоу, якое не цікавіць беларускі народ і не мае шанцаў на міжнароднае прызнанне?..

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ЗА ЧЫЙ КОШТ "БАНКЕТ"?

Размах магілёўскага святочна-размашыстага тydня, які павінен пачацца на днях, проста ўражвае.

Ён пачнецца 25 чэрвеня фестывалем "Магутны Божа"; 28-га пяройдзе ў святкаванне Дня горада, а завершыцца другім салютам (першы адгрыміць як раз 28-га) у гонар Дня незалежнасці позним вечарам 2 ліпеня. На кожны дзень плануецца больш за 30 мерапрыемстваў і ажно, як ужо сказана, 2 феерверкі.

Як кажуць, нават старажылы не памятаюць такіх працяглых святкаванняў — з мітынгамі (дазволенымі, зразумела) і шэсцямі, ускладаннем кветак і вянкоў, канцэртамі і выставамі заезжых (у асноўным, зразумела, расійскіх поп-зорак, з дарагуткім "Хорам Турэцкага" ўключна), танцамі на плошчах і шашлыкамі на вуліцах з віном-гарэлкай, прыёмамі ў Ратушы замежных пабрацімскіх (і перспектыўных на гэты конт) дэлегацый, з уручэннямі гарадскіх прэмій розным перадавікам і пераможцам, ушанаваннем менш статусных перадавых людзей у сваіх калектывах. Асобна варта пазначыць (як гэта і стаіць у праграме) — з заключным акордам святочнага тыдня "Споём гимн вместе!", што адбудзецца ў ноч з 2 на 3 ліпеня на Савецкай плошчы, дзе вялікі натоўп людзей традыцыйна збярэцца чакаць таго самага заключнага салюту.



*Еш ананасы, рабчыкі жуй…*

Па неафіцыйных звестках, усе гэтыя святы ў грашовым вымярэнні пацягнуць агулам ніяк не менш за 200 тысяч долараў…

"Тут і цяпер" звярнулася да некалькіх чалавек, якія маюць вагу ў грамадстве, з просьбай выказаць свае думкі з нагоды магілёўскага "святочнага тыдня". Вось што мы пачулі ад…

## ХЛЕБА І ВІДОВІШЧАЎ!

**ВАЛАДАРА ЦУРПАНАВА, КААРДЫНАТАРА ГРАМАДСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ "РУШАННЕ":**

— Відавочны працяг старажытнай формулы для адцягвання ўвагі людзей ад сур'ёзных жыццёвых пытанняў — "хлеба і відовішчаў!". Сюды можна аднесці і засвоены нашай уладай яшчэ адзін стары дыктатарскі запавет — "падзяляй і валадар". Ужо шмат гадоў у Магілёве ніякая грамадская ініцыятыва, ніякая недзяржаўная дэмакратычная суполка не могуць наладзіць хаця б якое сціплае святкаванне даты ці падзеі сапраўднай беларускай гісторыі. Улада не дазваляе таго, што не супадае з яе прачытаннем нашай гісторыі. А апошняя, па меркаванню галоўных і другарадных чыноўнікаў, прыйшла да нас ніяк не раней за савецкую перамогу над гітлераўскім фашызмам. Як быццам і не было ні краіны, ні чарады падзей, вартых удзячнай памяці нашчадкаў і гордасці, раней за апошнія калі не зусім 60 гадоў, то як самае большае ад 1917 года… А ўсё таму, каб міжвольна ўваходзіла (а ўжо цэлае пакаленне выгадавалася з нашым першым прэзідэнтам) у свядомасць і занатоўвалася вера ў тое, што мы — той жа рускі народ (праўда, са знакам якасці, бо гэта ўлада лічыць за камплімент). Што ж тычыцца нашых свят і таго размаху, які запланаваны на найбліжэйшыя дні, то хоць на час можна будзе забыцца пра сапраўдныя праблемы штодзённага жыцця пад грукат духавых аркестраў і феерычныя салюты.

## ЦІКАВЫ БЮДЖЭТ

**ЗМІЦЕРА САЛАЎЁВА, СТАРШЫНІ АБЛАСНОЙ АРГАНІЗАЦЫІ БНФ:**

— Намер ва ўлады па-свойму шчыры і няхітры — улагодзіць народ на парозе выбараў. Такія гучныя мерапрыемствы, так шчыльна здобраныя ідэалогіяй "патрыятызму, адзінства, працвітання", звычайнаму чалавеку не так і лёгка распазнаць. Улада падкідвае табе шчодрай рукой цэлы россып самых розных забавак і цікавостак. Многія з іх варта пабачыць, тым больш дзецям, бо ў звычайныя дні горад мае даволі сціплыя магчымасці для баўлення вольнага часу. Дзеці вунь у фантанах купаюцца і па парэнчах кожнага гандлёвага цэнтра гойсаюць на сваіх ролікавых дошках, выварочваючы гранітныя пліты і наносячы сабе траўмы.

*Заканчэнне на стар. 8*

# ЦІ СТАНУЦЬ КАМФОРТНЫМІ БЕЛАРУСКІЯ ТУРМЫ

На днях прызначаны новы начальнік Дэпартамента выканання пакаранняў МУС — палкоўнік Сяргей Дарошка.

**Свой ён ці чужы ў сістэме выканання пакаранняў? На што зможа паўплываць?**

**Ці стане з яго прыходам менш скаргаў на парушэнне закона ў месцах пазбаўлення волі?**

**Зоймецца ён доўгачаканым рамонтам турмаў ці не?**

Адказы на гэтыя і іншыя пытанні шукала **«Тут і цяпер»**.

## ХТО ТАКІ І АДКУЛЬ ПРЫЙШОЎ?

Пра новага начальніка Дэпартамента выканання пакаранняў (ДВП) вядома няшмат. У прэсе ён асабліва не свяціўся, у скандалах пакуль што не заўважаны. Сяргей Дарошка з'яўляецца адным з першых выпускнікоў факультэта ўнутраных войскаў МУС. Людзі, якія з ім знаёмы, адзначаюць, што ён «выбудаваў нармальную кар'еру ў падраздзяленнях, якія ажыццяўляюць кантроль і ахову на аб'ектах выканання пакаранняў».

Даслужыўся да камандзіра канвойнай брыгады, што дыслацыруецца ў Баранавічах, працаваў начальнікам аднаго з упраўленняў баявой падрыхтоўкі ў глаўка. Пару гадоў назад паступіў у Акадэмію Генштаба Рэспублікі Беларусь, скончыў яе. Дарошку называюць «талковым» афіцэрам. У міліцэйскім асяродку прызначэнне Дарошкі на ДВП лічаць удалым, асабліва калі ўлічыць, што больш за паўгода ў гэтай важнай структуры наогул не было начальніка — толькі часова выконваючы абавязкі.

Нагадаем, што папярэдні кіраўнік ДВП Аляксандр Барсукоў (цяперашні начальнік ГУУС Мінгарвыканкама) наогул не меў ніякага дачынення да гэтай сістэмы: раней ён займаў пасаду першага намесніка начальніка галоўнага ўпраўлення аховы грамадскага парадку і прафілактыкі — начальніка ўпраўлення правапарадку МУС Беларусі.

*«Можна сказаць, што Дарошка ведае сістэму выканання пакаранняў не па чутках, ён усё бачыў знутры,* — кажуць у міліцэйскім ведамстве. — *Для яго там нічога новага няма. І рашэнне аб яго прызначэнні было цалкам разумным».*



Смех скрозь слёзы

Але якім Дарошка будзе начальнікам, пакажа час.

**Кадрапляс**: Папярэдніка Аляксандра Барсукова генерала Валерыя Яромкіна прыбралі з ДВП у снежні 2010 года. У сярэдзіне лістапада 2007 года ўказам прэзідэнта быў вызвалены з пасады начальніка ДВП і Уладзімір Коўчур. Яго імя фігуравала ў гучным скандале з міліцэйскімі дачамі.

## ПЕРШ ЗА ЎСЁ — АМНІСТЫЯ

*«Першым важным заданнем для Сяргея Дарошкі стане абвешчаная амністыя, прымеркаваная да Дня незалежнасці»,* — аб'явілі па тэлеканале АНТ, распавядаючы пра нядаўнія кадравыя прызначэнні.

*«У найбліжэйшы час, вядома, супрацоўнікі калоній будуць заняты менавіта амністыяй,* — каментуе "ТіЦ" старшыня РПГА «Беларускі хельсінкскі камітэт» **Алег Гулак**. — *Гэта вялікі кавалак працы, таму што ў законе аб амністыі прапісаны толькі рамачныя ўмовы, рашэнні аб скарачэнні тэрміну або вызваленні будуць прымацца судом, а непасрэдна падрыхтаваць і перадаць дакументы ў суд павінны супрацоўнікі калоній.*

*Дарэчы, у нас была цікавая справа, калі на чалавека своечасова не падрыхтавалі дакументы і ён перасядзеў лішнія паўгода! Праўда, ужо было позна спаганяць выдаткі, але гэта я да таго, што такія сітуацыі таксама здараюцца...».*

На што, акрамя амністыі, павінен звярнуць увагу Сяргей Дарошка?

*«На мой погляд, ёсць два важныя прыярытэты,* — выказвае свае думкі старшыня БХК. — *Па-першае, па магчымасці навесці парадак ва ўсіх санітарных справах, таму*

**У ТЭМУ**

## ТУРЭМНЫЯ ХРОНІКІ

Цяжка сустрэць чалавека, які б адразу пасля адсідкі заявіў, што цалкам задаволены ўмовамі, у якіх прыйшлося адбываць пакаранне. Гаворка, вядома, не пра тых, хто імкнецца патрапіць у турму, таму што там хоць кормяць рэгулярна. Гаворка пра больш-менш нармальных людзей, якія прывыклі прымаць душ два разы на дзень, чысціць зубы і есці не з жалезнага посуду.

Былы вязень Андрэй Бандарэнка спрабуе адсочваць сітуацыю ў калоніях. Пад яго кіраўніцтвам інфармацыйна-асветніцкая ўстанова «Платформа» стварыла маніторынгавыя групы, якія збіралі інфармацыю пра ўмовы ўтрымання зняволеных у калоніях са слоў людзей, якія ўжо выйшлі на волю.

«Парушэнні ёсць практычна ўсюды і яны аднолькавыя. У следчых ізалятарах гэта перанаселенасць камер, у калоніях — жорсткае абыходжанне, націск на асуджаных з боку адміністрацыі, перашкода ў атрыманні карэспандэнцыі і адпраўцы скаргаў на дзеянні адміністрацыі, незаконнае прымяненне розных спагнанняў і пакаранняў. У штрафных ізалятарах калоній і памяшканнях камернага тыпу — парушэнне санітарна-эпідэміялагічных норм і жорсткае абыходжанне», — цытуе Бандарэнку БелаПАН.

*што такіх праблем у калоніях, на жаль, хапае. Па-другое, на мой погляд, менавіта з боку супрацоўнікаў сістэмы выканання пакаранняў павінна зыходзіць ініцыятыва па гуманізацыі пакарання, змене крытэрыяў ацэнкі гатоўнасці асуджаных да жыцця на волі. Неабходна максімальна арыентаваць сістэму на тое, каб чалавек не проста нёс пакаранне, а быў у далейшым арыентаваны на нармальнае жыццё на волі. Гэта патрабуе досыць сур'ёзных рэформ. І грамадскія арганізацыі, дарэчы, гатовы ў гэтай рабоце аказаць максімальнае садзейнічанне».*

## ІНІЦЫЯТЫВА — СПРАВА НЕБЯСПЕЧНАЯ

У апошні час нямала гаворыцца аб тым, што ў Беларусі наспела турэмная рэформа, і што па-добраму ДВП трэба зрабіць цалкам самастойнай структурай, каб ён не залежаў ад МУС, меў уласны бюджэт. Выказваліся думкі і пра тое, што ДВП можа быць падпарадкаваны Міністэрству юстыцыі або ўраду.

Для тых, хто не ў курсе: сёння ДВП уваходзіць у структуру Цэнтральнага апарату МУС.

*«На жаль, Дэпартамент выканання пакаранняў сёння менш вольны і самастойны, чым раней, калі называўся ДВП пры МУС,* — аналізуе Гулак. — *Цяпер ДВП фактычна растварылі ў міністэрстве. Сістэма выканання пакаранняў не павінна быць міліцэйскай. Ахова ў калоніях — так, хай будзе ваенізаванай, а арганізацыя выканання пакарання — гэта праца грамадзянская. І не павінен ДВП знаходзіцца ў сістэме праваахоўных органаў. Гэта, дарэчы, сусветная практыка».*

Натуральна, начальнік дэпартамента МУС не сам сабе начальнік — над ім яшчэ камандзіраў і камандзіраў! Тады ці варта ўскладаць на Сяргея Дарошку надзеі па рэфармаванні сістэмы выканання пакаранняў?

*«Папярэдняе начальства не хацела браць на сябе лішнюю адказнасць і ўвесь час адпраўляла ўсе ініцыятывы на ўзгадненне да кіраўніцтва міністэрства,* — гаворыць Алег Гулак. — *Але ад начальніка ДВП, на мой погляд, таксама нямала залежыць. І калі ў Сяргея Дарошкі хопіць адвагі, прафесіяналізму і настойлівасці, каб пераконваць міністра ў неабходнасці рэформ, то ёсць надзея на перамены. Вядома, апошняе слова будзе нават не за міністрам унутраных спраў. Але пакуль, шчыра кажучы, не бачна адмысловых сігналаў аб тым, што людзі, якія кіруюць МУС, гатовы рухацца ў бок лібералізацыі».*

## ЖЫЦЦЁ З БЕЛАГА АРКУША…

У інтэрнэце можна знайсці нямала малюнкаў інтэр'ераў заходніх турмаў. Кніжныя паліцы, асобны ўнітаз, рукамыйніца, ложак з пакрывалам… Калі беларускія турмы і калоніі будуць больш-менш камфортнымі і ці павінны яны такімі быць?

*«На мой погляд, павінны,* — без роздумаў адказвае Алег Гулак. — *Пытанне ў тым, чаго мы хочам дамагчыся, адпраўляючы чалавека ў калонію: проста пакараць, акунуўшы на самае дно, у быдлячыя ўмовы? Калі мы ставім задачу помсты, расправы над чалавекам, то, вядома, чым горш умовы, тым лепш. Але цвярозы розум падказвае, што мэта пакарання павінна быць іншай. Паверце, за пяць гадоў вельмі проста дэградзіраваць, прывыкнуць да жыцця ў быдлячых умовах. І ці можам мы чакаць, што такі асуджаны, выйшаўшы на волю, вернецца да нармальнага жыцця? Каго грамадства атрымае на волі? Таму асабіста я выступаю за тое, каб сістэма пакаранняў была больш чалавечай».*

Разважаючы аб будучых працоўных днях новага начальства ДВП, Алег Гулак падкрэслівае: «Новы начальнік у меншай ступені звязаны з тым, што было да яго. І ў яго ёсць выдатная магчымасць нагадаць сваім падначаленым аб тым, што ёсць правы чалавека і закон, які трэба выконваць і паважаць. А беспакаранасць, якую мы адзначаем у сістэме МУС, а ў некаторых выпадках і ў пенітэнцыярнай сістэме, трэба спыняць. І прыход новага начальства — добрая магчымасць пачаць жыццё з белага аркуша...».

**МАРЫНА МІТ**

# ЖУРНАЛІСТ АНДРЭЙ ПАЧОБУТ ІЗНОЎ У ТУРМЕ

**21 чэрвеня на кватэру да гарадзенскага журналіста прыйшоў следчы Андрэй Нікольскі разам з міліцыянтамі. Як распавяла Службе маніторынгу БАЖ жонка Пачобута Аксана, ім паведамілі, што супраць журналіста ўзбуджаная новая крымінальная справа па артыкуле 368 частка 2 (паўторна здзейсненая абраза).**

Падставай для ўзбуджэння справы нібыта сталі артыкулы Андрэя Пачобута на «Хартыі» і «Белорусском партизане» .

У хаце журналіста правялі вобшук, у яго забралі працоўны камп'ютар.

Самога журналіста міліцыянты павезлі на допыт. Па словах Аксаны Пачобут, яе муж амовіўся размаўляць са следчым, і яго адвезлі ў гарадзенскую турму.

5 ліпеня 2011 г. карэспандэнт польскай «Gazety Wyborczej», беларускі журналіст з Гродна, сябра БАЖ Андрэй Пачобут быў асуджаны на тры гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 2 гады паводле арт. 367 ч. 1 (паклёп на прэзідэнта). Рашэнне прыняў суддзя Ленінскага райсуда Гродна Віталь Ляцко. Журналіста, які правёў некалькі месяцаў за кратамі, вызвалілі ў зале суда.

Першапачаткова журналіста вінавацілі ў парушэнні двух артыкулаў Крымінальнага кодэксу РБ: 368 (частка І) — «знявага» і 367 (частка І) — «паклёп» у дачыненні да прэзідэнта. У выніку па артыкуле за знявагу журналіста апраўдалі.

Крымінальная справа супраць Пачобута была заведзена ў сакавіку 2011 г. Гродзенскай абласной пракуратурай. Падставай для ўзбуджэння справы стала размяшчэнне на сайтах www.wyborcza.pl, belaruspartisan.org і poczobut.livejournal.com шэрагу яго публікацый («Время закручивать гайки», «Лукашенко нашел очередную цель», «В Беларуси выборы без выбора», «Говорите мне батька», «Так правит Лукашенко», «Лукашенко: Да, я сфальсифицировал выборы», «Свобода по-белорусски. Покаялся так вышел?», «Предвыборный популизм по-белорусски», «Так пугает белорусский КГБ» і аднаго тэксту без назвы, які пачынаўся словамі «Дзякуй усім…»)

Нагадаем таксама, што ў снежні 2010 г. А. Пачобут апынуўся сярод затрыманых журналістаў, якія асвятлялі ў Мінску вулічную акцыю нязгодных з вынікамі прэзідэнцкіх выбараў грамадзян. У снежні суд Кастрычніцкага раёна г. Мінска пачаў разгляд яго адміністратыўнай справы, узбуджанай за «парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства» (ч. 3 арт. 23.34 КаАП), але адправіў яе на дапрацоўку. У студзені журналіста дапыталі ў КДБ, а ў яго кватэры адбыўся ператрус. Пасля гэтага Пачобута прывезлі ў Мінск і судзілі — у студзені спачатку аштрафавалі на 1 млн. 750 тысяч рублёў, а потым, пасля пратэсту пракуратуры Кастрычніцкага раёна г. Мінска, у лютым асудзілі на 15 сутак арышту.



*"Газета Выборча" вельмі ўплывовая*

# КУДЫ ПАДАЦЦА БЕЛАРУСАМ

“Як жа вы мяне ўсе…” — закрэслена. “Як я вас усіх…” — закрэслена. “Ды пайшлі б вы ў…” — закрэслена. “Прашу прадаставіць мне пазачарговы водпуск”.



*Такі адпачынак сёлета большасці беларусаў недаступны*

Летам, асабліва калі яно такое нягеглае і няветлівае, як сёлета ў Беларусі, хочацца падацца куды-небудзь, дзе цёпла, светла і смачна кормяць, а калі яшчэ не вельмі дорага, то зусім рай. Аб тым, дзе плануюць адпачыць суайчыннікі, каб падмацаваць здароўе і не спустошыць кішэні, даведвалася “Тут і цяпер”.

## ХТО — НА МОРА, ХТО — НА ВЯЧУ…

“Нікуды мы сёлета не паедзем, — уздыхае маладая маці **Наталля Барысенка**. — Я ўжо і так, і гэтак прыкідвала, але ж не вымалёўваецца ў нас адпачынак, хоць трэсні. А што сабе можна дазволіць, калі ў мужа заробак 2,8 мільёнаў, мінус 400–450 тысяч на камуналку і крэдыт на кватэру, а я ў “дэкрэтным” і малога трэба ў жніўні збіраць у дзіцячы садок? Бабулі ў вёсцы ў нас няма, ні на які Крым, тым больш на Турцыю з Чарнагорыяй не хапае, ды нават дачу пад Мінскам (па знаёмстве) прапаноўваюць сама меней за 250 долараў у месяц… Карацей, водпуск правядзём на рэчцы Мухлі ў нашай Малінаўцы”.

Такіх, як Наташа і яе сям'я, калі распытваць не толькі мінчукоў, але і жыхароў “заМКАДдзя”, насамрэч даволі шмат. Пры ўсім жаданні вырвацца з працоўнай мітусні гэтыя людзі не могуць дазволіць сабе нават адпачынак у межах Беларусі — ні аграсядзібы (ад 10–15 долараў за суткі на чалавека, у залежнасці ад рэгіёна), ні санаторыі (ад 112 тысяч у суткі за месца, мінімальная пуцёўка — 12 дзён). Бо, папершае, усе даступныя варыянты яшчэ ў красавіку — маі ўжо разабраны, прычым пераважна грамадзянамі РФ; а па-другое, у свядомасці многіх беларусаў выезд у іншую вобласць — ніякі не адпачынак, а марнатраўства. Лепш усё ж у вёску ці на дачу.

Зрэшты, і апошні бюджэтны варыянт не ўсіх задавальняе — па ідэйных меркаваннях. *“Я на дачу прынцыпова не паеду, бо іду ў водпуск не для таго, каб працаваць у іншым месцы,* — тлумачыць брэстаўчанін **Алег Цярноўскі**. — *А маці ж не супакоіцца, пакуль не ўскапаеш ёй усе грады, не пасадзіш, не праполеш і г.д. Ну і ў чым радасць? Лепш я дома пасяджу, пагляджу Алімпіяду, з малымі пазаймаюся”.* Іншыя варыянты, шчыра кажучы, Алегу не вельмі і даступныя — у яго чацвёра дзяцей, на дваіх (ад першага шлюбу) даводзіцца плаціць аліменты, яшчэ дваіх штодня выхоўваць. *“Нават дзецям нічога гэткага дазволіць не магу,* — скардзіцца ён, — *адзін толькі паход у парк для ўсіх нас пацягнуў на 300 тысяч, і гэта толькі ўваходныя білеты, цукровая вата, пара атракцыёнаў… Таму мой водпуск заключаецца проста ў тым, што не хаджу на працу і шукаю другую, больш высокааплатную”.*

## КУПІЦЕ ГЛОБУС УКРАІНЫ

Пенсіянерка **Надзея Захарава** яшчэ з савецкіх часоў пяшчотна любіць крымскія краявіды, горы, мора і сонца. Але з кожным годам, прызнаецца, выбірацца на спатканне з імі робіцца ўсё цяжэй: *“На аўтобусе ў Крым ехаць не адважваюся — здароўе ўжо не тое. А калі браць чыгунку, то там цэны проста жахлівыя! Маёй пенсіі — крыху больш за 1,2 мільёна рублёў — хопіць альбо на плацкартны білет да Сімферопаля ці Еўпаторыі і назад, або, калі застануцца толькі купэ, на білет туды і палову шляху назад. А яшчэ ж трэба жыллё зняць, хоць штосьці есці… Я, натуральна, адкладваю апошнія паўгода, колькі атрымліваецца, але ўсё адно назбіралася крыху больш за 500 долараў, добра, калі на 10 дзён адпачынку хопіць. Самае крыўднае, добра ж памятаю, што 20 год назад мы з мужам і дзвюма дачушкамі без праблем з дзвюх зарплат ляталі ў той жа Сімферопаль самалётам ці ездзілі толькі ў купэ, і яшчэ хапала на пражыванне, харчаванне ў кафэ, экскурсіі, ласункі дзецям і сувеніры родным”.*

Мы не сталі засмучаць Надзею Васільеўну цяперашнімі коштамі на авіябілеты — усё ж такі самае таннае паветранае падарожжа ў Сімферопаль на дваіх дарослых і дваіх дзяцей ва ўзросце да 12 гадоў абыдзецца ў 440 еўра ў адзін бок! Цягніком будзе ўтрая танней, але і на 24–28 гадзін даўжэй. Аўтобус абыдзецца ў 50–55 долараў на чалавека ў адзін бок, альбо ад 70 — туды і назад, але гэты від транспарту сёння мала каго задавальняе, хіба толькі моладзь, “чаўнакоў” і экстрэмалаў.

Што да жылля, то гэта каму як пашанцуе, але мясцовыя крыніцы “ТіЦ” аўтарытэтна пацвердзілі: у сезон (а доўжыцца ён з мая па кастрычнік) больш-менш утульны дах над галавой коштам менш за 10–15 долараў на чалавека знайсці практычна нерэальна.

## “ТАІЦІ, ТАІЦІ… НАС І ТУТ НЯДРЭННА КОРМЯЦЬ!”

Беларус **Яўген Лабанаў** ужо сёмы год працуе ў Калінінградзе, атрымлівае заробак удвая большы за сярэднебеларускі і можа дазволіць сабе больш, чым многія суайчыннікі. Але пытанне бюджэтнага і камфортнага адпачынку, прызнаецца, яго хвалюе не менш. *“Хочацца туды, дзе нікога няма. Толькі я і мора. І жонка. Ну, і малыя — куды без іх. А значыць, давядзецца разлічваць на чацвярых, якраз прыкідваю, на што нам хопіць. Жонка прапаноўвае Крым — Лешч, ці як ён там называецца… А я складаю калькуляцыю: білеты на цягнік туды-назад — 300 долараў, пражыванне (двухмесны нумар з халадзільнікам і тэлекам у прыватным пансіянаце, 1 км да мора) — 50 долараў плюс харчаванне і забаўляльная праграма для ўсіх — прыкладна 125 долараў ў суткі. 5 дзён адпачынку плюс білеты — вось і 1000 долараў набягае. Дорага. І народу — не прапхнуцца. Тады я прапанаваў свой варыянт: у адваротны бок па карце, на Куршскую касу, — там дакладна нікога няма, толькі камары памерам з кракадзіла, пікіруюць, адрываюць кавалак мяса і ляцяць у гняздо, маленькіх камарыкаў сваіх карміць. Калі б адкінуць 10 год узросту, панты і звычку да камфорту кшталту хатняй ежы і мяккага сядзення ў, прабачце, у прыбіральні, то можна было б рвануць у “Дзюны” — гэта турбаза савецкіх часоў з драўлянымі домікамі на 4 сям'і, дзе ёсць маленькія кухні, душ у асобным будынку, гарачая вада па раскладзе і жудасная прыбіральня, куды без цыгарэты — ні нагой. Затое ўсё астатняе — сапраўды заліў (лянівай хадой 2 хвіліны), злева мора (7 хвілін паўзком)… І на пляжы нікога. А які дурань сюды палезе, калі вада ў моры 16—18 градусаў, у*

# ГЭТЫМ ЛЕТАМ?

*анамальна цёплае лета да +20. Каштуе гэтая радасць 10 долараў за суткі з чалавека, калі харчавацца ў сталоўцы, то 15, а калі паставіць намёт у сасонніку, каб пагранічнікі і ляснікі не злавілі, то і бясплатна. За мінусам камфорту — шчасце суцэльнае. У больш утульных умовах па цэнах тое ж самае, што Крым, толькі білеты больш танныя. Пэўна, туды і паедзем, у пасёлак Лясное. Ну і што, што не экзотыка, затое яднанне з прыродай і загартоўка для душы і цела"*, — са смехам заўважае Яўген.

Дарэчы, паводле звестак айчынных тураператараў, Прыбалтыка ў апошнія гады крыху страціла папулярнасць сярод беларускіх турыстаў. Суграмадзяне аддаюць перавагу адносна бюджэтным і простым у сэнсе атрымання візы Турцыі ды Егіпту, куды нават у сезон можна "злавіць" гарачыя пуцёвачкі за 1000 долараў на дваіх. На другім месцы па запатрабаванасці — Еўропа (Іспанія, Грэцыя, Кіпр), на трэцім — усходняя экзотыка (Тайланд).

## "НУ А ТЫ КАЛІ ПАЕДЗЕШ, АНАТОЛЬ?"

Народны артыст Беларусі **Анатоль Ярмоленка** вядомы не толькі тым, што больш за 30 гадоў кіруе ВІА "Сябры", але і мноствам хітоў, у адным з якіх, у прыватнасці, апяваецца дача як месца адпачынку.

**— Дык што, Анатоль Іванавіч, гэтым летам на дачу ці ў цёплыя мясціны пагрэцца?** — пацікавілася "ТіЦ" у галоўнага "сябра".

— Ад гарадской мітусні я ўцякаю, безумоўна, на дачу "і там душою спачываю", як пяецца ў яшчэ адной вядомай песні. Дарэчы, ніхто не ведае, дзе яна знаходзіцца, бо я не люблю раскрываць прыватнае жыццё. Скажу толькі, што на дачы мы заўсёды збіраемся ўсёй сям'ёй. А вось каб адпачыць больш грунтоўна, хочацца ўсё-такі на мора. Я разумею, што цяпер гэта далёка не ва ўсіх атрымліваецца, але ў Беларусі мора няма, мабыць, таму да яго так і цягне… Плануем з жонкай і ўнукам паездку на Кіпр дзён на 10–15, на больш тэрмін наўрад ці атрымаецца — я не змагу столькі часу сядзець без працы.

## МЫ — ДА ІХ, ЯНЫ — ДА НАС

Ураджэнка Віцебска **Марыя Апасталідзіс** усё ніяк не можа прызвычаіцца да таго, што цяпер яна — грачанка, называе сябе "беларускай грэчкай" і прызнаецца, што пры кожным зручным выпадку цягне мужа правесці адпачынак у беларускіх сваякоў. *"Я раней не любіла, больш за тое — не-на-ві-дзе-ла нашы халады і няўцямнае дажджлівае лета, з задавальненнем ездзіла летам або ў Турцыю, або ў Іспанію, Грэцыю… І калі пазнаёмілася з будучым мужам, то прапанову жыць у яго на радзіме вітала абедзвюма рукамі. Але хто ж ведаў, што за гэтыя пяць год я так стамлюся ад празмернай яркасці фарбаў і мне будзе не хапаць нашага шэранькага неба! Тым больш самі грэкі апошнім часам узялі моду адпачываць на радзіме, а гэта значыць бясконцыя госці, сваякі, сябры, размовы-размовы-размовы і пачастунак, а паколькі жанчыны тут пераважна ў статусе хатніх гаспадынь, то мяне чакае бесперапынная гатоўка. Правесці водпуск на кухні, я лічу, зусім нерамантычна, таму другі год запар угаворваю мужа прыехаць да маіх бацькоў у Беларусь"*. Кошт выдаткаў, як падлічыла Маша, складзецца толькі з авіябілетаў Ларнака—Мінск — 850 еўра на дваіх — ды яшчэ пары соцень еўра на сувеніры родным. *"Атрымліваецца якраз па еўрапейскіх мерках — месячнага заробку на адпачынак нам хапае з лішкам! Толькі мама падрыхтавала такую культурную праграму, што потым давядзецца яшчэ некалькі дзён адпачываць,* — смяецца Маша. — *Муж, а ён у мяне знатны хамяк-дамасед, прасоўвае сустрэчную прапанову: каб адзін год лёталі мы да іх, а адзін — яны да нас, і дарогу будзем аплачваць. Бо без родных людзей, якія б тут ні былі прыгажосці і дабрабыт, мне ўсё ж такі вельмі цяжка, дый ім карысна часцей глядзець на Беларусь звонку"*.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

## КУДЫ ПАДАЦЦА НА ЛЕТА?

**"Тут і цяпер" склала прыблізны спіс месцаў адпачынку, якія могуць дазволіць сабе беларусы на сярэдні заробак (за красавік 2012 — 3,252 млн рублёў і пенсію (з 1 мая 2012 — 1,467 млн рублёў).**

| Кошт адпачынку | На пенсію **1,467 млн рублёў** | На заробак **3,252 млн рублёў** |
|---|---|---|
| **МІНСКАЕ МОРА** | | |
| Білет на электрычку ад сталічнага чыгуначнага вакзала — 950 рублёў, пенсіянерам удвая менш | 1544 паездкі туды і назад | 1711 паездак туды і назад |
| **АГРАСЯДЗІБА** | | |
| Ад 10 долараў за суткі — у рэгіёнах, ад 20 — пад Мінскам | 17 дзён (без уліку харчавання і праезду) | 39 дзён (без уліку харчавання і праезду) |
| **САНАТОРЫЙ У БЕЛАРУСІ** | | |
| Ад 112 тысяч за суткі, ад 1,35 млн — мінімальная пуцёўка 12 дзён | 13 дзён і менш, без дарогі, з харчаваннем і лячэннем | 29 дзён і менш |
| **САНАТОРЫЙ "БЕЛАРУСЬ" У СОЧЫ** | | |
| Ад 2200 расійскіх рублёў за суткі, мінімальная пуцёўка 14 дзён (7,854 млн беларускіх рублёў па курсе Нацбанка) | Не хопіць (толькі на 2,5 дні без уліку дарогі) | Не хопіць (толькі на 5,5 дзён без дарогі) |
| **ЦЯГНІК МІНСК — СІМФЕРОПАЛЬ** | | |
| Плацкарта — ад 485 470 рублёў, купэ — ад 725 910 рублёў | На 3 плацкартныя білеты ў адзін бок або на 2 купэйныя | 3 разы туды-назад плацкартай, 2 разы — у купэ |
| **ДАЧА** | | |
| Ад 350 да 500 долараў за месяц | Не хопіць | На 1 месяц |
| **ЕГІПЕТ** | | |
| Ад 390 долараў за 7 дзён, з вылетам з Масквы | Не хопіць | Хопіць на 7 дзён, без уліку дарогі, візы, харчавання |
| **ТУРЦЫЯ** | | |
| Ад 270 долараў за 7 дзён, з вылетам з Масквы | Не хопіць | Хопіць на 7—14 дзён без уліку дарогі, візы, харчавання |
| **ЕЎРОПА: ЧАРНАГОРЫЯ** | | |
| Ад 275 долараў за 10 дзён, аўтобусам | Не хопіць | Хопіць на 10 дзён + віза + харчаванне |
| **ТАІЦІ* (кошт тура разлічаны турагентам умоўна, адмыслова для "ТіЦ")** | | |
| Прыкладна 1450 еўра за 15 дзён з вылетам з Мінска | Не хопіць | Не хопіць |

# ЗА ЧЫЙ КОШТ “БАНКЕТ”?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*

На будаўніцтва адмысловага спартыўнага гарадка, дзе былі б умовы для такіх практыкаванняў, ці то рукі ва ўлады не даходзяць, ці то сродкаў не стае (хутчэй за ўсё, апошняе). Затое на феерверкі, урачыстыя прыёмы і расквечаныя шэсці сродкі ёсць, а рарытэтны статут Вялікага Княства Літоўскага магілёўцы выкуплялі, як гаворыца, усім светам. Як афіцыйна паведамлялася, на нейкім узроўні дзяржаўная ўлада далучылася да збору сродкаў на выкуп унікальнага твора і кнігі, але не чуў я, каб далучылася менавіта магілёўская ўлада. Бюджэт, як разумею, не дазваляе тут вольных паводзін. А святы па цэлых тыднях дазваляе…

## УСЁ ПРОЙДЗЕ, А СОРАМ ЗАСТАНЕЦЦА

**АЛЯКСАНДРА СІЛКОВА, РЭГІЯНАЛЬНАГА КААРДЫНАТАРА РУХУ “ЗА СВАБОДУ”:**

— Мне ў такіх выпадках успамінаецца вострае выказванне знакамітай акторкі Фаіны Ранеўскай: “Усё пройдзе, а сорам застанецца”. Якраз пра нашы святы. Нібыта пір падчас чумы: да выхаду з крызісу яшчэ далёка, краіна ў пазыках і крэдытах, пра вяртанне якіх і гаворкі няма, а тут — гуляй, Вася!.. Але ж і святы патрэбны людзям, слоў няма. Пытанне толькі ў тым, якія і за які кошт. Вось мне цікава, ці знайшоўся хоць адзін з 40 гарадскіх дэпутатаў, хто запытаўся ў сваіх калег і выканаўчай улады: “Адкуль сродкі, калегі?”. На дзіцячую бальніцу, каб палепшыць там умовы як для малых пацыентаў, так і для медыцынскага персаналу, сродкаў такіх няма. Альбо на паліклініку на мікраранёне Юбілейным, ды хоць бы і на стварэнне прыстойнага кабінета для прыёму пацыентаў, асабліва састарэлых, -- няма… Народная ўлада ў тым і заключаецца, што мы ўсе, жыхары горада, павінны вырашаць разам куды і як укласці нашы агульныя сродкі. Так і пра нашы святы: яны павінны ісці ад нашай згоды, ад нашага прыняцця, ад нашай далучанасці, а не звальвацца на нас з неба, як той феерверк.

**ВІКТАР ВОЙТ**






**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 21.06.12
Тыраж 299 экзэмпляраў